Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 20 Нядзеля, 14 Кастрычніка, 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН



...ЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

...РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

...эс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ...ilno, ul. Zawalna 6, m. 5, || АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

# Духоўны крызыс.

Хто ўважна чытае беларускія газэты ўсіх палітычных напрамкаў, той ня можа не заўважыць вельмі сумнага зьявішча: беларуская моладзь на правінцыі марнуе ўвесь час і сродкі ці на карты, ці на п'янства. Рэдакцыя завалена карэспандэнцыямі з правінцыі, у якіх толькі і гаворыцца аб п'янстве, картах і разбоі. А палітычныя павадыры ў цэнтры, заместа таго, каб распачаць крыжавы паход проціў гэтых галоўных ворагаў беларускага Народу, займаюцца партыйнымі спрэчкамі.

Дык няма нічога дзіўнага, што правінцыя, пазбаўленая належнага кіраўніцтва з цэнтру, пакінута на ласку самой сабе і, ня маючая да чаго прылажыць свае рукі, аддаецца п'янству.

Ужо неаднаразова мы гаварылі аб тым, што цераьмернае захопленьне палітыкаю да дабра не давядзе. Заместа дзяленьня на рожныя партыі і палітычныя групы, якія часта ня маюць абсалютна ніякіх падставаў для свайго існаваньня, акрамя задаваленьня хвараблівых асабістых амбіцыяў павадыроў, заняліся-бы звычайнаю культурна-гаспадарчаю працаю. Гэта было-б шмат карысьней як для агульнай справы, гэтак і для кожнага ў аддзельнасьці.

Не палітыкаваць нам трэба і не забіваць галавы беларускіх сялян зусім непатрэбнымі і шкодлівымі думкамі нейкае клясавае барацьбы, а вучыцца і працаваць. Мы бачым, да чаго давялі на ўсходзе духоўная цэмра сялян і работнікаў з аднаго боку і распаленьне клясавае барацьбы з другога.

І мы бачым, да чаго даводзіць у нас унясеньне палітыкі туды, дзе для яе няма і не павінна быць мейсца.

Адно з старэйшых, Т-ва Беларускае Школы пераажывае ўнутраны крызыс. Цэлы шэраг гурткоў Т-ва зачынены па загаду ўладаў ласьне за тое, што яны нібыта заместа культурна-асьветнае працы займаліся нейкаю палітыкаю. Гэткі-ж крызыс толькі што пераажыла і Віленская Беларуская Гімназія, у той час, як Радашкоўская застала зусім зьліквідаванаю. І гэта здарылася ў той час, калі для беларускіх матурыстаў адчыніліся дзьверы польскіх вышэйшых учэльняў і калі патрэба сярэдняе асьветы для беларусаў значна павялічылася.

Заместа бескарыснае і на'т шкодлівае траты грошаў і энэргіі на палітыку лепей было-бы ўжыць гэтыя сродкі на разьвіцьцё каапэрацыі, якая ў нас амаль што ня існуе. Гэта дало-б матэр'яльную карысьць сялянству і стварыла-б новыя варштаты працы для беларускае інтэлігэнцыі, якая зусім марнее. Калі не ацанілі беларусы

да гэтае пары значэньня каапэрацыі, дык ацэніць у хуткім часе. Як ведама, ўсе грашовыя і іншыя ўрадавыя дапамогі для пацярпеўшых ад неўраджаю ідуць праз каапэратывы і рожныя супалкі. Зусім зразумела, што ў першую чаргу гэтымі дапамогамі будуць карыстацца сябры гэтых супалак.

Дык, як бачым, у сучасны мамэнт галоўную ролю адыгрываюць не палітычныя партыі і іх лідэры, а гаспадарчыя мяйсцовыя ўстановы. Вось у гэтым кірунку і павінна быць скіравана нашая праца. Тады можа спыніцца п'янства і гульня ў карты на правінцыі.

# Пара.

Каб не падаваць поваду для вельмі шырокай крытыкі, на якую здольна беларуская прэса, я буду гаварыць толькі аб тэатральнай справе ў вузкім і практычным значэньні гэтых слоў.

У Вільні цяпер выходзіць аж 7 беларускіх газэтаў рожных поглядаў і напрамкаў. Ня гледзячы на тое, што яны паміж сабою вядуць змаганьне за справу прышчапленьня беларускаму жыхарству той, ці іншай палітычнай ідэолёгіі і адна газэта крытычна, калі ня ваража адносіцца да таго ці іншага выпадку, здарэньня, падзеі, аб якіх паведамляе другая — усе беларускія газэты, на задаваленьне, згодны ў тым, што ахвотна зьмяшчаюць карэспандэнцыі ці весткі аб спэктаклях на вёсцы, ці то адбыўшыхся, ці то маючых быць наладжанымі ў недалёкай будучыне. Прыемна чытаць гэтыя весткі і карэспандэнцыі, з якіх відаць, што спэктаклі ладзяцца драматычнымі сэкцыямі ці аматарамі тэатральнага мастацтва рожных гурткоў культурна-прасьветных установаў, як Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, Т-ва „Прасьветы" і Т-ва Беларускае Школы.

Бяручы пад увагу, што дазволы на пастаноўку спэктакляў атрымліваюцца з вялікімі накладамі лішніх стараньняў, просьбаў, тлумачэньняў, што на атрыманьне дазволу (на правінцыі, у г. зв. „глухіх кутках") трэба патраціць шмат часу на цаганіну, што сама пастаноўка адбываецца пры ненармальных умовах з тэхнічнага боку, а падчас і з перашкодамі ад „інтэрвэнцыяў" — прыходзіцца дзівіцца тым высілкам, той станоўчасьці і энэргіі вясковага жыхарства, якія яно кладзе на разьвіцьцё свае культурнае нівы. Спэктаклі, якія адбываюцца ў вёсках, паказваюць жыхаром местаў вялікае зацікаўленьне практычнаю культурна-асьветнаю працаю з боку беларускага вясковага жыхарства. Спэктаклямі на вёсках цікавяцца, калі не захопліваюцца, ня толькі моладзь, але і пажылыя людзі. Многія з жыхароў места напэўна бачылі, з якім захопленьнем вясковыя жыхары слухаюць зразумелую для сябе мову „штукароў"; як пільна і ўважліва прыглядаюцца да пэўных мамэнтаў свайго гаротнага жыцьця, якое праходзіць тут-жа перад іх вачыма, на яве, скупленае ў вадным мейсцы і часе; як тонка па-свойму адчуваюць яны добрыя і благія праявы гэтага жыцьця, яшчэ раз перажываюць іх і — пакідаюць залю спэктаклю з думкаю, а інагды і з цьвёрдаю пастановаю пазбавіцца ліхіх праяваў, ці набыць добрыя ў запраўдным сваім жыцьці. У забітых, сонных грудзёх вясковых жыхароў спэктакль выклікае нейкі незразумелы для іх уздым, нейкія няясныя пахопы імкненьня да нечага лепшага, прыгажэйшага і... можа быць, не адзін ціха заплакаў над сваім жыцьцём і над доляю ўсіх беларусаў. Адным словам, спэктаклі робяць сваё і гэтым тлумачыцца тая зацікаўленасьць імі вясковага жыхарства, выразам чаго і ёсьць шматлічныя карэспандэнцыі і весткі аб спэктаклях, якія прыносяць нам беларускія газэты амаль ня ў кожным сваім нумары.

Спэктаклі ладзяцца...

І гэта ў вёсцы, у тых мяйсцовасьцях, аб якіх нават свае газэты пагардліва пішуць — „глухі куток". І гэта тымі людзьмі, якіх яшчэ па старай прывычцы называюць „цёмнымі мужыкамі". І гэта ў тыя часы, аб якіх зажмурыўшы вочы крычаць — „цяжкія часы". Так, у вёсцы, у „глухім кутку" „цёмнымі мужыкамі" і ў „цяжкія часы" ладзяцца спэктаклі.

А глянем у самы цэнтр беларускага жыцьця, так сказаць, у яго сэрца, у м. Вільню, дзе толькі й чуваць аб патрэбе прасьветы для вёскі, пацікавімся што тутака робіцца.

Чытаючы ў „глухім кутку" сваю газэту, „цёмны мужык" пазайздросьціць тым прасьвечаным і сьвядомым беларусам, якія жывуць у Вільні. І чаму-ж не зайздросьціць? Віленскія беларусы маюць аж тры культурна-прасьветныя установы, ды яшчэ з такімі гучнымі і паважнымі назовамі — Таварыства Беларускае Школы, Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Таварыства „Прасьветы". Гэтыя установы, між іншым, маюць на мэце помач і навучальна-паказальныя заданьні ў ладжаньні спэктакляў.

Уявеце сабе вясковага малайчыну, які жадае палепшыць тэхнічную справу ў ладжаных ім спэктаклях, ці хоча паглядзець на характарыстыку гэрояў у той ці іншай п'есе ў выкананьні больш прасьвечанных і дзеля гэтага больш здольных асобаў, ці параўнаваць уражаньні мескавых глядзельнікаў з уражаньнямі вясковых ад якой-колячы п'есы і г. д. Вось гэты малайчына чытае газэту — Вільня... Цэнтралі культурна-прасьветных установаў: Т-ва Беларускае Школы, Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і „Прасьветы"... і рашуча пастанаўляе паехаць у Вільню. Ён хоча паглядзець, як гэта дэкаруецца сцэна, як гэта іграюць артысты і выконваюцца імі ролі, як характарызуюц-

ца гэроі п'есы, якое ўражаньне зрабіла п'еса на прысутных і г. д. Сабраў ён трохі грошай ну... і прыехаў у Вільню паглядзець на спэктаклі, павучыцца, падзяліцца сваімі думкамі з артыстымі, атрымаць ад рэжысэра ўказаньні што да пастаноўкі той ці іншай п'есы і г. д.

Ах, якое-ж разачараваньне спаткае яго, калі, пахадзіўшы па віленскіх культурна-прасьветных установах, дзе сядзяць прасьвечаныя і сьвядомыя беларусы, пачуе, што ў Вільні спэктакляў, ладжаных гэтымі ўстановамі, і ў спаміне няма! Ах, як-жа няпрыемна будзе гэтаму малайчыне, калі ён тамака пачуе, што ўстановы фактычна заклікаюць толькі вёску да практычнай культурна-прасьветнай працы, а самі ня маюць магчымасьці яе праявіць!(?) Паглядзіць гэты малайчына, вылупіўшы вочы і сьціснуўшы плячамі, ды... паедзе ня солена хлебўшы.

Паглядзеў, павучыўся...

І няма чаго ўяўляць гэтакага выпадку. Гэтак я гаварыў толькі з пашаны перад нашымі культурна-прасьветнымі ўстановамі. Падобныя выпадкі, нажаль, ужо здараліся, здараюцца і будуць здарацца да таго часу, пакуль цэнтралі гэтых установаў не падумаюць аб тых выніках, якія адбіваюцца ў „глухіх кутках“ на шкоду гэтым-жа ўстановам, пакуль не парупяцца яны аб тым, каб пазбавіцца гэтых вынікаў.

Сорамна ўспамінаць аб тым, што прасьвечаныя сьвядомыя беларусы моўчкі адпускаюць творчыя сілы „цёмных мужыкоў“ з Цэнтраляў сваіх культурна-прасьветных установаў на самапас на культурнай ніве. Інстынктыўна адчуваючы гэты сорам і, каб ачысьціць сваё сумленьне перад „цёмнымі мужыкамі“, гэтыя прасьвечаныя беларусы толькі... параяць, у якой (не ў якіх!) кнігарні купіць тую, ці іншую п'есу.

Сумна адчыняць шырокія дзьверы для розных нагадаў і пагудак, якія могуць шырокім патокам паліцца на гэтае зьявішча з боку ворагаў беларускага адраджэнскага руху.

Але, як-бы ня было сорамна — трэба гаварыць праўду, а тыя, каго датычыць яна, няхайжа не зажмурваюць сваіх вачэй на яе.

Ніводная беларуская культурна-прасьветная ўстанова, якая істнуе ў Вільні, у гэтым сэрцы беларускіх думак і адчуваньняў, ня мае і ня хоча мець хоць-бы аматарскай тэатральнай трупы. Рашуча, ня хоча мець, бо ніводная ўстанова ня робіць ніякіх стараньняў у гэтым кірунку. А гурткі гэтых установаў у Вільні — вось-жа, побач з Цэнтралямі. Ці-ж ня дзіўна гэта! Ці-ж ня сьмешна!.

Сваім часам на старонках „Грамадзяніна“ была парушана справа сталага беларускага тэатру. Але арганізацыя гэтага тэатру, можа быць, не па сіле віленскім прасьвечаным беларусам і іх культурна-прасьветным установам. Што-ж датычыць аматарскай трупы ці гуртка — дык гэта справа куды лягчэйшая і магчымая на'т у сучасных цяжкіх варунках. А іх як няма, так і няма.

Некаторыя асобы пры парушаньні справы аматараў тэатральнага мастацтва, ссылаліся на Студэнцкі Саюз і яго працу ў гэтым кірунку. Гэта — вельмі прыемна, але праца Студэнцкага Саюзу зусім ня вычэрпывае парушанага пытаньня. Праца Студ. Саюзу на тэатральнай ніве, гэта — праява змаганьня з цяжкімі варункамі жыцьця беларускага студэнцтва. Праца гэтая ніяк ня можа быць зьвязана з працаю на гэтай ніве драматычнага гуртка, ці аматарскай трупы, арганізаванай пры якой-колечы культуральна-прасьветнай установе ў Вільві. Сам па сабе Студ. Саюз зьяўляецца рэзкаабасобленаю арганізацыяй пэўных колаў беларускага грамадзянства, куды няма доступу тым ня-студэнтам, якія-б маглі працаваць на тэатральнай ніве. Дзеля гэтага Студ. Саюз і ня можа замяніць якой-колечы аматарскай тэатральнй трупы пры Інстытуце, ці Т-ве Школы, або Т-ве „Прасьветы“. Няхай сабе працуе Студ. Саюз, няхай сабе цешыцца пасьпехам і паважаньнем, але гэта ніяк ня можа быць пастаўлена ў якую-колечы сувязь з вышэйуспомненымі культурна-прасьветнымі ўстановамі. Студенцкі Саюз адно, а культурна-прасьветныя ўстановы (зразумела, у Вільні) ці драматычныя гурткі пры іх — другое.

Усё тое, што гаварылася вышэй, гаварылася да таго, каб віленскія прасьвечаныя сьвядомыя беларусы падумалі над зарганізаваньнем пры Цэнтральных культурна-прасьветных установах гурткоў аматараў тэатральнага мастацтва, якія-б сваёю дзейнасьцю і працаю маглі задаваляць тыя пытаньні і сумлівы, з якімі прыяжджаюць у Вільню вясковыя аматары-артысты. Без тэатральных гурткоў культурна-прасьветныя ўстановы, асабліва-ж Цэнтралі, ды яшчэ ў такім мейсцы, як Вільня, шмат трацяць на сваёй вартасьці і павазе. Трэба, каб такі гурток праяўляў самую энэргічную дзейнасьць і ня толькі ў Вільні, але і ў бліжэйшых да Вільні аколіцах, а калі магчыма, дык і на правінцыі, будзячы такім чынам зацікаўленьне да тэатральнае справы ў больш слабадейных таварышох гэтых установаў. Можа быць, гэта — за цяжкое заданьне адной якой-колечы ўстанове — дык ёсьць выхад з гэтага палажэньня.

Думаю, што віленскія культурна-прасьветныя ўстановы для дабра агульнай культурнай справы маглі-б адкінуць свае амбіцыі і палітычныя рожніцы і знайсьці супольную мову і спосабы для вырашэньня гэтага вострага для прасьвечанага віленскага беларускага жыхарства пытаньня. Агульнымі высілкамі ня цяжка было-б стварыць такі „міжпартыйны“ гурток з сяброў і Т-ва Школы і Т-ва „Прасьветы“ і Інстытуту, тым больш, што ўтрыманьне яго не наразіла-б Цэнтралі гэтых установаў на вялікія выдаткі.

Пара-ж падумаць аб гэтым і ўзяцца шчыра за справу. Пара.

Няхай вёска паслужыць прыкладам для прасьвечаных віленскіх беларусаў у гэтай справе, а яны ўзаемна, няхай будуць прыкладам для вёскі.

**Паў—скі.**

# Палітычная хроніка.

## З ПОЛЬШЧЫ.

### Дзяржаўны бюджэт на новы год.

Рада міністраў на паседжаньні 9 кастрычніка ўхваліла праэкт бюджэту на 1929—30 г. Агулам прыход вылічаны ў суме 2,809,000 зл., а выдаткі—2,656,000 зл. Апрача гэтага, прызнана міністэрству скарбу 145 міл.дадаткова для пэнсіі ўрадоўцам. Гэткім чынам, агульная сума выдаткаў складае 2 801,000 зл. І яшчэ па стаўлена пазыцыя ў 15 міл. зл. на дапамогі для ваенных інвалідаў.

## З ЗАГРАНІЦЫ.

### Выбары да Сойму ў Латвіі.

У нядзелю, 7 кастрычніка, адбыліся ў Латвіі выбары да Сойму, якія далі наступныя вынікі:

Латвійскія правыя групы 8 мандатаў, Сялянскі саюз—16, маладыя гаспадары—4, латгальскія сяляне—9, мяшчанская лявіца—9 сацыялістыя-мінімалісты—2, сацыял-дэмакраты—26, незалежныя сацыялістыя—3, камуністычныя завадовыя саюзы—5, немцы—6, жыды—4, расейцы—6, палякі—2.

У агульнай лічбе 100 мандатаў магчымы яшчэ некаторыя дробныя зьмены, але агульныя вынікі паказваюць аслабленьне цэнтру.

### 7 кастрычніка ў Вене.

На 7 кастрычніка ў Вене чакалі спатычкі між дэманстрацыямі сацыялістычнай і нацыяналістычнай арганізацыяў. Аднак, дзякуючы прынятым Урадам мерам, да крывавых спатычак не дайшло. Да паўдня адбыўся паход нацыяналістаў, у якім прыймала ўдзел 18,000 чал., а пасьля паўдня паход сацыялістаў з удзелам 35,000 чал. На перададні было арыштавана 200 камуністаў.

### Сьмяротная казьнь для камуністаў.

У Японіі апублікаваны дэкрэт, на падставе якога караюцца сьмерцю ўсе рэвалюцыянэры, асабліва камуністыя, якія імкнуцца д а зьнішчэньня існуючага дзяржаўнага стану. Паліцыянты атрымалі самыя шырокія паўнамоцтвы для стлумленьня ўсялякіх антыдзяржаўных выступленьняў.

### Проці каго вааружаецца С.С.Р.Р?

Заграчічная прэса займаецца абгаварываньнем пытаньня аб пасьпешным вааружэньні бальшавікоў. Афіцыяльна гэта тлумачыцца быццам пагрозаю вонкавае вайны, але, сапраўды, яны рыхтуюцца проці „унутранага ворага" і нацыяналістычных рухаў на Украіне, Грузіі, Арменіі, Азэрбейджане і Туркестане, якія імкнуцца да незалежнасьці.

Гэтыя нацыянальнасьці варожа настроены проці Масквы і спадзяюцца на ўмяшацельства пастаронных дзяржаваў, каб дабіцца незалежнасьці. Вось проціў гэтае „Унутранае небясьпекі" бальшавікі і вааружаюцца. Дзеля гэтага і ваенныя манэўры яны робяць большаю часткаю на тэрыторыях не карэнных расейскіх зямель. Прычым, у гэтых манэўрах прыймаюць

---

Ул. Войнаў.

# Саламонаў суд.

*(З расейскага).*

— Ну, гэта, ведаце, такая заблутаная справа, сказаў нарэшце народны судзьдзя, бязрадна заплюшчваючы змучаныя вочы, у якой і сам Саламон не зразумеў-бы ні чорта!..

Раптам пачуўся глухі грымот, уся даміна ўздрыганулася і праз вытвараную ў задняй сьценцы прабоіну, у салю ўвайшла дзіўная, муміяпадобная фігура. Мутным, ня гэтага сьвету ўзорам, агарнула яна сабраньне,ухапіла ў жменю сваю сівачорную бараду, і слабым, замагільным голасам сказала:

— Халера вам у бок! У чым справа?

— Ды вось, таварыш Саламон, радасна сказаў, пазнаўшы фігуру, народны судзьдзя, — зусім нязвычайны выпадак: казус бэллі, кажучы дэ юрэ. Вось гэтыя два грамадзяніна зьяўляюцца бацькамі аднаго і таго самага дзіцяці.

— Глупства! буркнуў сабе ў бараду Саламон. Такога выпадку ў маёй юрыдычнай практыцы ня было.

— Пэўне-ж! пасьпешна сказаў судзьдзя: вы жылі даўно і з таго часу нашыя здабычы ў галіне прававых нормаў пасьпелі папярэдзіць самыя сьмелыя дапушчэньні. У нас, напрыклад, у работніцка-сялянскай старонцы, у тых выпадках, калі ні аб адным з інкрымінаваных бацькоў нельга сказаць з поўнай пэўнасьцяй, што іменна ён, а ня другі, зьяўляецца сапраўдным вінавайцам урачыстасьці, — у інтарэсах дзіцяці і маткі, звычайна, лічаць бацькамі і таго і другога.

— Пекненькая гісторыя! кіўнуў галавой Саламон, і ў яго вочах замільгалі бліскі неякага ажыўленьня.

— І вось, цягнуў далей народны судзьдзя— перад намі два бацькі аднаго і таго самага дзіцяці. А сэнс справы ў тым, што адзін з бацькоў хоча дзіця хрысьціць, а другі—акцябрыць. Разумееце?

— Акцябрыць... ноябрыць... машынальна замарматаў Саламон, і вочы ізноў пагасьлі.

— Дзеля таго-ж, што абедзьве гэтыя цэрэмоніі карыстаюцца ў нас тымчасам з аднолькавага права на існаваньне, аднак, у адносінах аднаго і таго самага аб'екта ўзаемна выключа-

удзел ня толькі чырвонаармейцы, але і работнікі, камсамол і камуністыя, дзеля таго, што радавы урад ня зусім давярае свайй чырвонай арміі.

Лепшым доказам няпэўнасьці чырвонай арміі зьяўляецца прыклад адэскіх манэўраў. Калі быў падняты па трывозе гарнізон уночы, каб ісьці на абарону места проці няпрыяцеля акружыўшага места сіламі ў 40,000 чалавек, дык усе чырвонаармейцы, прыняўшы гэта за праўду, разьбегліся па месьце. І толькі на другі дзень, калі даведаліся, што гэта была фальшывая трывога, сабраліся ў казармы. Чырвоная армія на 80 проц. складаецца з сялян, варожа настроеных проці радавае Ўлады. Вось дзеля чаго на апошніх манэўрах ставіліся заданьні не франтавых апэрацыяў, але абароны местаў унутры страны проціў паўстанцаў. З гэткім заданьнем распачаліся вялікія манэўры пад Кіевам і Адэсаю.

## Цэппэлін ляціць з Эўропы да Амэрыкі.

У сераду выляцеў з Нямеччыны да Паўночнае Амэрыкі нямецкі аэрастат, цэппэлін. Гэты цэппэлін нядаўна быў выбудаваны і зьяўляецца найвялікшым аэрастатам на сьвеце, калі ня лічыць двох ангельскіх аэрастатаў № 100 і 101, якія яшчэ знаходзяцца на фабрыках.

## Страшная будаўляная катастрофа.

У Празе Чэскай разбурыўся 7-павярхавы яшчэ ня закончаны бэтона-жалезны гмах. З падразваліна̄ў дабыта 60 трупаў работнікаў, 37 раненых і на ўратаваньне 25-30 ужо няма ніякіх надзеяў. Катастрофа гэта зрабіла вельмі моцнае ўражаньне на ўсю Чэхію.

# Тутэйшая хроніка.

**— Водгукі неўраджаю.** Віленскае ваяводзкае кола паслоў беспартыйнага блёку на паседжаньні 4 кастрычніка зьвярнулася да свайго старшыні пасла Яна Пілсудзкага з просьбаю, каб ён прадпрыняў крокі перад Віленскім Ваяводаю, Старшынёю Ізбы Скарбовай і Дырэктарам Банку Гаспадарчага, Краёвага і Рольнага ў Вільні ў справе неўраджаю ў паветах: Сьвянцянскім, Пастаўскім, Браслаўскім і Дзісьненскім. Ён мае прасіць аб: 1) падатковых палёгках, 2) адсрочцы выплаты крэдытаў пасеўных, і на ўгнаеньні, аб выданьні пазык на пашу і прыняцьці сродкаў проці надмернага падзеньня цэнаў на жывёлу.

Апрача таго, п. Я. Пілсудзкі скіруецца ў гэтых справах да цэнтральных уладаў у Варшаве.

**— Акцыя штучных гнаеў Рольнага Банку.** Віленскі аддзел Дзяржаўнага Рольнага Банку пачаў прыймаць заказы на штучныя гнаі, якія будуць выдавацца як пазыкі малазямельным і сярэднезямельным гаспадаром. Просьбы на гэта належыць падаваць да кааперацыйных і камунальных касаў, касаў Стэфчы-

---

юць адна другую, то... ці вы ўцямілі што небудзь ува ўсей гэтай музыцы, тав. Саламон? Я, напрыклад, — ні чорта ня цямлю!

Рыс цяжкага ўнутранага напружаньня чорнай хмарай сеў на высокім лобе Саламона.

— Дайце мне дзіцянё! загадаў ён шырокім расказуючым тонам. Я ведаю, што трэба! У майй практыцы, т'кі але быў адзін падобны выпадак!

І дзіцянё прынясьлі.

— Каб я так жыў! сказаў Саламон. Ці каторы з бацькоў згаджаецца ўступіць другому?

— Ты абняўся судзіць, дык судзі, чортава твая башка, а падманваць няма чаго — аднача̄сна адказалі „бацькі“.

— Добра, нячысьцік вам у пячонкі! крыкнуў Саламон. Дайце мне кухцяны нож!

— На што? асьцярожна спытаўся народны судзьдзя.

— Буду ножыкам рэзаць дзіця на дзьве палавінкі. І хай адзін—хрысьціць сваю, а другі — наябрыць. Разумееце?

Пахвальнае марматаньне хваляй пракацілася сярод прысутных.

Пытаньне было пастаўлена так востра і тонка, што ў дадатнім выніку клясычнай спробы не магло быць і цені сумліву.

Бязумоўна, адзін з бацькоў, сапраўдны бацька, ураз-жа адмовіцца ад свайй паловы дзіцяці і ўступіць другому.

Гэтак было, так і будзе.

— Ну, як? урачыста зьвярнуўся да бацькоў Саламон,— пачынаць?

— Рэж! сказалі бацькі аднача̄сна. І цар Саламон кінуў ножык і жахліва задам пачаў адыходзіць да сьценкі.

— Вар'яты! Мішугінэ коп! зашапатаў ён дрыжачымі вуснамі: няўжо-ж лёс нявіннай крошкі ня зварухне сэрца таго, хто ёсьць сапроўдным бацькай дзіцяці?

— А чорт яго ведае, сумна адказалі бацькі: — мо' і зварухне, толькі адкуль-жа нам ведаць, калі сапраўдны яго татачка, які ёсьць камсамол Тадорка касавокі, у гэты мамэнт у бабкі рэжацца на спортплацы?

— Ну, т'кі прапала мая „выязная сэсія“! ускрыкнуў з тугой Саламон, і тырганууўшы сябе за старасьветную бараду — распаўся парахном...

**З расейскага пералажыў Б. Д.**

ка, каапэратываў рольных і колкаў ральнічых. Для гэтай мэты Рольны Банк мае намер выпісаць значную колькасьць вагонаў штучных гнаёў.

— **Слова Працы.** Пасьля канфіскаты № 1 „Слова Працы" ў гэтым тыдні выйшаў № 2

У № 2 зьмешчана абвестка Навуковага Т-ва гэткага зьместу:

Працаўнікі Беларускіх Устаноў!

Ці зрабілі Вы пастанову аб тым, каб вылічаць пэўны працэнт ад вашага месячнага заробку на „Дом Беларускай Культуры ў Вільні"? Калі не, то ведайце, што ўжо найвышэйшы час зрабіць такую пастанову.

Лічба 17—гэта нумар конта (рахунак) „Дому Беларускае Культуры ў Вільні" ў Беларускім Каапэратыўным Банку ў Вільні. Ці паслалі Вы хоць што-небудзь на гэтае конта? Ці выпаўнілі свой грамадзкі абавязак? Калі не, то зараз-жа пашліце, грамадзянін.

Помніце, што Белар. Навуковае Т-ва ў Вільні пачало зьбіраць ахвяры на пабудову „Дому Беларускае Культуры ў Вільні". Памятайце, што кожны Беларус мусіць ахвяраваць што-небудзь на гэтую сьвятую справу. Ахвяры скіроўваць на адрас: Wilno, ul. Wileńska № 8. Białoruski Kooperacyjny Bank, konto № 17.

Урад Навуковага Таварыства.

— **Закрыцьцё Вялейскага Аддзелу Т-ва Бел. Школы.** Па загаду ваяводзкіх уладаў спынена дзеяльнасьць Вялейскага Аддзелу Т-ва Бел. Школы, начале якога стаяў Качаркін. Аддзел зачынены за тое, што, быццам, быў апанаваны камуністымі і зьяўляўся цэнтраляю камуністычнай дзеяльнасяці ў паўночна усходніх паветах ваяводзтва.

— **Дэлегацыя ў справе Гімназіі ў Вялейцы.** У суботу 29-га верасьня, да Школьнага Куратара ў Вільні зьявілася дэлегацыя ад Бацькаўскага Камітэту — для адчыненьня ў м. Вялейцы Беларускай Гімназіі на месца закрытай расейскай. Куратар патрэбаваў дадатковых даных аб матэр'яльным палажэньні будучай Гімназіі, складзе вучыцялёў і інш., якія дэлегацыя мае прадставіць у найбліжэйшы час.

— **Аб Радашкавіцкай Беларускай Гімназіі.** Як ужо ведама, Радашкавіцкая Бел. Гімназія пераіменавалася ў Радашкавіцкую беларускую школу імені Францішка Скарыны з праграмай 5 клясаў гімназіяльных. Заняткі ўжо распачаліся і новыя вучні прыймаюцца ўва ўсе клясы. Кіраўніцтва Школы спадзяецца, што праграма будзе пашырана да 6 клясаў гімназіі.

— **Зьезд Т-ва Беларускае Школы.** Як ужо ведама, пасьля „завешаньня" дзейнасьці Цэнтральнае Рады, дэлегацыя Т-ва дабілася ў Ваяводы адмены „завешаньня" на варунках перавыбараў Галоўнае Управы Т-ва, дзеля гэтага выбраная арганізацыйная камісія склікае Зьезд Т-ва ў Вільні на 21 кастрычніка г. г

— **Пасольскія мітынгі.** У мінулым месяцы меліся адбыцца мітынгі паслоў Сялянска-Работніцкага Клюбу ў Наваградку, Глыбокім і Куранцы. Паслы Дварчанін, Гаўрылік і Валынец выехалі на мейсцы мітынгаў, аднак мяйсцовыя ўлады дазволу не далі і мітынгі не адбыліся.

20 верасьня адбыўся мітынг ў Сьвірэні пасла Стэповіча — з беларускага пасольскага клюбу.

— **Мітыыг Магістрацкіх Радных** з лявіцы у справе звальненьня работнікаў, працаваўшых пры каналізацыі.

6-га кастрычніка г. г. у салі „Макабі" адбыўся мітынг, на якім павінен быў выступаць Радны беларус Кузьма Крук. Але, як пішуць польскія газэты, мітынг не дайшоў да скутку і праз паліцыю „został rozwiązany".

— **Працэс Грамады ў апэляцыі.** Абаронцы засуджаных дзеячоў Белар. Сял.-Раб. Грамады, адвакаты—Сьмяроўскі, Эттынгер, Дурач і інш. унясьлі апэляцыю на прыгавар суду першай інстанцыі, дамагаючыся да віленскага прыгавору застасаваньня амністыі. Апэляцыйны працэс Грамады адбудзецца, прыпушчальна, у сьнежні месяцы гэтага году.

— **А Кабычкін на волі.** Арыштаваны 29 ліпня А. Кабычкін, як мы і прадугледжвалі, 28 верасьня зволынены з Лукішак за адсутнасьцю доказаў ягонай віны ў справе Сэляха.

У сучасны момэнт А. Кабычкін у Вільні і зьбіраецца вярнуцца ў Баранавічы да сваей адвакацкае працы, бо ад працы палітычнай адыйшоў яшчэ ў канцы 1926 году.

— **Справа пасла Стагановіча.** 25 верасьня пракуратура Наваградзкага Акружнога Суда скончыла рэдакцыю акту абвінавачаньня ў справе пасла беларускага работніцка-сялянскага пасольскага клюбу „Змаганьне" Стагановіча. Акт абвінавачаньня перасланы ўжо ў суд. Усяго ў гэтай справе пацягнута да адказнасьці 21 асоба.

— **Арышт Мамонькі ў Менску.** Ведомы на віленскім бруку беларускі эс эр, Мамонька, як ведамэ, нядаўна выехаў да Менску. І вось як паведамляюць віленскія польскія газэты, Менскае Г. П. У. па выкарыстаньні яго ў сваіх агітацыйных мэтах, пасадзіла яго пад дамовы арышт. Яму забаронена выяжджаць з Менску і ён забавязаны кожны дзень "мэльдавацца" ў Г. П. У. Гэта табе, Мамонька, ня ў буржуйнай Дзяржаве „фардыбачыцца"! Пачакайма, што яшчэ будзе далей?

— **Студэнская вечарына.** 6 кастрычніка Бэл. Студэнскім Саюзам у памешканьні Інстытуту Гаспадаркі і Культуры (вул. Вострабрамская № 8 1) адбыўся рэферат.

— **Новыя выданьні.** Вядомы бел. выдавец — друкар, Знамяроўскі, выпускае на гэтых днях кніжку „Казкі" для дзяцей, а ў друкарні Клецкіна шыкуецца да выхаду „Тарас Бульба" Гогаля, пераклад М. Косьцевіча, і арытмэтычны задачнік Р. Астроўскага. Слоўнік Беларуска-польскі—Дуцкага-Падбярэзкага ў сьнежні г. г. акажацца ў продажы.

— **Канфіската „Маланкі.“** 4 кастрычніка па загаду адміністрацыйных уладаў была сканфіскавана гумарыстычная беларуская часопісь „Маланка“ (№ 10). Гэта ўжо другая па чарзе канфіската.

— **Канфіскаты.** Сканфіскаваны 2 папярэдніх №№ „Маланкі“ і № 1 радыкальнае газэты „Слова працы“.

# Карэспандэнцыі.

## Здабывайма веду.

(З Пастаўскага павету).

З усіх бакоў нашае многапакутнае Бацькаўшчыны даходзяць радасныя весткі, што наш народ прачнуўся ад векавога сну і пачаў працаваць над пашырэньнем роднай культуры. Аднак, хаця з усіх бакоў узьняўся нейкі рух, але, нажаль, ён вельмі неаднолькавы. У адных мейсцы працуюць над сілы, а ў другім гэтага ня бачым. Возьмем, напрыклад, наш куток. Вось мы якраз тут убачым недахоп грамадзкай сьведамасьці, якая-б вяла грамадзян нашае вёскі да пазнаньня, у чым нашае гора і шчасьце. Газэтаў беларускіх у нас амаль ніхто ня чытае, а нават мала хто аб іх і ведае. А што-ж можа лепш ілюстраваць бег жыцьця, як родная газэта, якая нясе ў цёмныя вёскі прамень сьвятла і адкрывае перад вачмі лепшую будучыню народу.

Таксама грамадзяне нашае вёскі мала дбаюць і аб роднай школе. А колькі аб гэтым гаворыцца і пішацца сягоньняшнім часам ў газэтах, колькі кладуць працы ўсе беларускія арганізацыі і над пашырэньнем роднай школы! Неяк робіцца аж дзіўна, як гэта народ дагэтуль яшчэ ня можа зразумець вартасьці роднае школы.

Бязумоўна, што гэты зварот ужыты не да ўсяго Беларускага народу, але толькі да меней сьведамай яго часткі, што пасылае сваіх дзяцей на калечаньне ў чужыя школы.

Далей, зірнём яшчэ на вясковае жыцьцё нашай моладзі. Што-ж? Спачатку, паглядзеўшы, можна было-б сказаць — жыцьцё вясёлае, п'юць, гуляюць, вяселяцца, жэняцца, выходзяць замуж і г. д.

Але ўдумаўшыся ў глыбіню гэтай вясёласьці, заўсёды знойдзем хоць вясёлы пачатак, але канец вельмі сумны. У моладасьці нашы хлопцы толькі п'янствуюць і весяляцца. Але гэта яшчэ нічога. Але вось праміне бура маладых гадоў і, пачынаючы новае жыцьцё, кожны ўбачыць, як неразумна, як дурна прапусьціў беспаваротную моладасьць. І цяпер толькі ўбачыўшы плады сваей моладасьці, кожны зразумее, што ня шукаў і не здабываў нічога добрага сабе наж жыцьцё. Кожны будзе змушаны валачыць лямку свайго бацькі, ды яшчэ некалькі разоў труднейшую. Бо калі бацька меў які загон зямлі, дык абрабляў яе адзін і адзін з яго сабіраў даход. А дзецям выпадае гэты загон дзяліць на некалькі частак, а гэтым самым яшчэ болей сябе сьціскаць.

Вось дзеля гэтага і паўстаюць цяпер у нас неўраджаі і галадоўкі ў вёсках, а моладзь наша, змарнаваўшы маладыя гады на гуляньні, приступае вясьці гаспадарку бяз ніякага запасу веды. А сягоньняшнім часам, толькі той патрапіць сабе стварыць дабрабыт, хто патрапіць сабе здабыць перш веду і асьвету, як найгалаўнейшую падставу багацьця і шчасьця.

Дык, маладыя сябры і старыя грамадзяне! Будзем усімі сіламі здабываць гэтыя моцныя падставы агульнага дабрабыту. Будзем закладаць гаспадарча-культурныя арганізацыі па нашых вёсках, будзем выпісваць і чытаць родныя і зразумелыя нам кніжкі і газэты, дзе схаваны вялікі скарб — **веда**.

**Вясковы.**

## Цяжкае жыцьцё.

(Маладэчанскі павет)

Сяляне на Беларусі бедныя, зачынены дзьверы ўсюды. Мала маюць зямлі, а дзеля гэтага і хлеба. Галовамі нашыя сяляне — беларусы круціць ня ўмеюць, як жыды, напрыклад, ці іншыя народы. Яны прывыклі да цяжкай працы і аседлага жыцьця.

Шмат дзе я чытаў і бачыў на свае вочы, што наша Бацькаўшчына адстала ад другіх народаў сваей культурай. І гэта праўда. Чаму-ж яна не адстане, калі ў нас толькі 3 беларускія гімназіі, ды і тыя чуць ліпяць, а пачатковых школаў дык і зусім, можна сказаць, што няма.

А ў іншых народаў толькі міла глядзець і чуць, колькі розных школаў. Чуў я так сама, што вучыцялі наракаюць на сялян — бацькоў, чаму ня пускаюць дзяцей ў гімназіі і завуць іх несьвядомымі. Але, паночкі настаўнікі, зьвярніце ўвагу на нашу беднасьць! Ня так лёгка вучыць, як гавараць. Усім-жа вядома, што трэба плаціць за навуку, за кватэру, за кнігі і за ўсе школьныя прылады. Апрача ўсяго гэтага, трэба-ж і вопратку, ды і лапці-ж не абуеш, а трэба якіясь боты, чаравікі. Нашто казаць — дзеці на Беларусі здольныя і кемкія, але дзе там кемкасьць вылязе, калі трэба ня толькі бацьку, але і дзіцяці думаць аб розных недахватах.

**Гаротны.**

## Наша гміна.

(Сьвянцянскага павету)

У сучасны мамэнт знаходзіцца Рада гмінная ў няўпоўным камплекце пры адсутнасьці некалькіх актыўнейшых працаўнікоў з прычыны выбараў у Польскі Парлямант. Рада гмінная складаецца пераважна з Беларусаў паміж іншым заступаюць іх заступнікі; праца

Радных ідзе шпарка ўперад толькі на паперы, як напр., некалькі разоў было паседжаньне у справе рынкаў „ustalenie targowisk“, частка радных жадаець, каб рынкі пазасталіся на тым самым месцы, як у сучасны мамэнт, перад гэтым Камісія гаспадарчая ухваліла, каб адзін з гэтых пляцоў астаўся-б свабодны, дзе можна былоб пабудаваць Дом людовы, малачарню і інш. і гэты увёсак прыняты аднагалосна Камісіяй; з усяго складу рады знаходзіцца тры асобы, якія моцна пратэстуюць каб рынкі пазасталіся як і ёсць. Хібаж Вы, прадстаўнікі народу, не жадаеце, каб Ваша маладзеж узяла-б прыклад ад другіх і пачала-б паступова асведамляцца на ніве культурна-асветнай? Хіба-ж не жадаеце, каб дасягнуць да гэтага і узяцца энэргічна за культурна-асветную працу і падняць мінімальны ровень тультуры у сваім мястэчку, агулам, у цэлай гміне. Дык, паважаныя Радныя не пярэчце большасьці, а лепш далучыцеся і ухваліце гэты праэкт аднагалосна.

**Прысутны.**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Шкоднасьць спасваньня азіміны.

Ня ўсьпее ўзыйсьці азіміна, як нашы гаспадары сьпяшаць скарыстаць рунь увосень, як пашу для сваей скаціны. Выганяюць на азіміну як кароў, так авец, сьвіней і каней.

Думаецца, што спасваньне руні ў нас практыкуецца не дзеля таго, што ў нас бракуе пашы, а дзеля таго, што нашы сяляне не ўяўляюць сабе ясна тэй аграмаднай шкоднасьці, якая адбіваецца на ўраджаю спасанай азіміны.

Калі мы прыглядзімся да ўраджаяў заграніцай, дык заўважым, што там на такой-жа глебе атрымліваюць прыблізна ў два разы большы ўраджай, чым мы. Сьмела можна сьцьвердзіць, што аднэй з прычын мізэрных ураджаяў у нас ёсьць спасваньне руні.

У нашых гаспадароў існуе абмылковы погляд, што спасваньне руні азіміны патрэбна дзеля таго, што буйна зрастаючая рунь часта выходзе вясной з-пад сьнегу пажаўцеўшай, ці пабурэўшай.

Гэтыя зьявішчы сустракаюцца ў нас больш усяго на добрых землях, дзе яшчэ азіміна і пасеяна рана.

Праўда, тут рунь буйна зрастае, а калі стаіць цёплая і выгадная восень, дык бывае небясьпека, (на Беларусі пакуль што рэдкая), каб жыта ўвосень не пачало каласіцца, ці як кажуць: „пусьцілася ў стрэлку“. Вядома, што ад такога жыта добрага ўраджаю спадзявацца нельга, бо выплыўшыя каласкі ад марозу гінуць. Падобныя зьявішчы можна назіраць на Паўдні, дзе клімат многа цяплей за наш. Пры нашых умовах „пусканьне ў стрэлку“ азіміны калі і бывае, дык вельмі рэдка і баяцца гэтага зьявішча бадай што ня прыходзіцца.

Пры спасваньні руні азімых хлябоў скацінай, апошняя апрача таго, што паядае вузёл кушчэньня расьлінкі, ці апошнюю выцягвае з каранямі з зямлі, але нагамі ўтаптвае зямлю і капытамі робіць шмат ямак, якія потым даюць месца дажджавой ці сьнегавой вадзе і гэтым самым спрыяюць вымаканьню азімых. Шкодна адбіваецца на росьце расьлінкі і астаўлены жывёлай кал, пад якім расьлінка душыцца і гіне.

Шкоднасьць ад спасваньня руні ўвосень (таксама і вясной) так. вачавідна кожнаму сьвядомаму гаспадару, што над ім не находзяць патрэбным цяпер ставіць дасьледы, ці дыскутаваць. У сярэднім, цяпер можна на падставе шматлічэбных дасьледчых працаў лічыць, што цераз спасваньне азімых жывёлай мы не даадтрымліваем што год адну пятую частку ўраджаю.

За граніцай кожнаму селяніну шкоднасьць спасваньня вядома таксама, як нашаму градабіцьце, ці іншыя катастрофы.

Праўда, у нас часта азіміна можа папасьці пад сьнег на незамерзшую зямлю, дзе азіміна, калі яна буйна разраслася, можа яшчэ праз некаторы час жыць, бо карэнчыкі яшчэ і пад сьнегам неякі час пасылаюць свой пасілак да зялёных лісткоў. Расьлінка для свайго жыцьця патрабуе паветра, і чым буйнейшая расьліна, тым гэтага паветра неабходна больш, а яго якраз не прапускае слой сьнегу. Дык вось тут рунь можа душыцца і лісточкі жаўцеюць ці бурэюць.

Бачачы гэтае зьявішча, нашы сяляне і пераконаны, што тут спасваньне ня толькі карысна, а проста і неабходна, бо спасваньнем руні зьмяншаецца патрэбнасьць у паветры для расьлінкі і гэтым самым ухіляюць умовы, спрыяючыя да задушэньня расьлінкі.

Практыка паказала, што гэту небясьпеку для руні можна ўхіліць, калі прыблізна за тры тыдні перад чакаемымі марозамі высака скасіць буйную рунь.

Чаму карысьней рунь азімых хлябоў касіць, а ня пасьвіць?

За адказам на гэтае пытаньне зьвярнёмся да самай расьлінкі. Раскручваючы асьцярожна лісток за лістком кусьцік руні, мы знойдзем у сярэдзіне яго, чуць вышэй грунту, маленькі пачатак будучага коласа. Калі гэты каласок будзе зьедзены жывёлаю, ці здратаваны, або зачэплены касой, дык з такога пачатку ніколі добры колас ня вырасьце і добрага ўраджаю спадзявацца нельга.

Наша скаціна гэтыя пачаткі каласкоў дратуе, топча, а коні і авечкі, нізка саскубваючы расьлінку, зусім паядаюць іх, разам з каласкамі.

Калі часам мароз захваціць буйныя азіміны яшчэ ня скошаныя, дык тут пасьці можна толькі тады, калі зямля ўжо добра пра-

мерзьне і каровы на адным месцы доўга не затрымліваліся, а вольна пераходзілі з нівы на ніву. З такім спасваньнем можна было-б згадзіцца, каб прабег спасваньня быў-бы правільны. На практыцы гэтага чакаць трудна, дзеля чаго мы мусім засьцерагаць нашых сялян ад спасваньня руні жывёлай, асабліва авечкамі і конямі на незамерзлай зямлі.

Калі трэба стрымаць буйны рост руні, дык лепш яе скасіць і то асьцярожна, толькі самыя вярхі, каб часам не пакалечыць маладыя, толькі-што зарадзіўшыяся пачаткі каласоў.

Калі выпадзе сьнег на незамерзлую зямлю, потым мароз скуе сьнег у ледзяную кару, пад якой жыта за адсутнасьцю паветра задыхаецца, дык тут трэба гэту кару нішчыць, дзеля якой працы лепш усяго надаюцца кольцавыя калоды, а калі іх няма—дык звычайныя калоды. **Т.**

## Падспор'е пры недахопе пашы на зіму.

У каго адчуваецца недахоп пашы на зіму, дык можна гэтаму дапамагчы пры лясных мяйсцовасьцях наступным спосабам. Як паказалі досьледы, статак добра есьць у зіму сечаныя маладыя галіны з лісьцямі з дрэваў і кустоў. Дык цяпер яшчэ трэба нарэзаць маладога гальля з лісьцямі, павязаць у невялікія венічкі і добра высушыць на прадуўных мейсцах.

Зімою гэтыя галіны трэба пасеч на сячкарні і заварыць у дзежцы. Гэткую пашу жывёла есьць добра. Але ня можна карміць жывёлу аднолькаваю пашаю. Разам з гальлём трэба даваць салому, сена, бульбу, буракі, макуху і.г.д. Бо толькі рожнародную пашу статак добра есьць, добра ператраўляе і дае больш малака. Гэткім чынам, маладое гальлё ня можа быць адзінаю пашаю, але пабочнаю пры сене і саломе.

## Падрыхтоўка хлява на зіму.

Надходзіць час, калі гаспадар павінен падумаць і аб зіме. Як ведама, рэдка хто мае добры і цёплы хлеў. У большасьці хлявоў вецер гуляе, як на дварэ. І тая толькі рожніца, што страха прыкрывае жывёлу ад дажджу і сьнегу.

У гэткіх хлявох жывёла мерзьне, а дзякуючы гэтаму больш есьць, бо ежа ідзе на вытварэньне цяпла, а не малака ў каровы, ці сала ў сьвіньні. Гэткім чынам выходзіць, што паша марнуецца толькі дзеля таго што ў хляве холадна. Вось дзеля чаго трэба загадзя парупіцца, каб зімою ў хляве было цёпла, чыста і сьветла.

Трэба зьвярнуць увагу на сьцены. Найлепш абмазаць іх глінаю з сечкаю. Калі гэта ня можна, дык залажыць саломаю ці лісьцямі. Затым трэба абавязкава зрабіць столь. Можна зрабіць з жэрдзяў, а наверх пасланьць картафляніку, лісьцяў ці саломы.

У стайні трэба зрабіць вакно і зашкліць. Дзьверы шчыльна прыпасаваць, каб ня прадувала праз іх.

Але, апрача гэтага, трэба паруліцца і аб чыстаце. Сьценкі трэба вымазаць вапнаю. Жолаб вынесьці на двор, вычысьціць і высушыць на сонцы, каб зьнішчыць бактэрыі.

Трэба паруліцца аб падлозе. Калі можна, то зрабіць з дзерава. Вывесьці гной і даць зямлі прасохнуць. Вымазаць падлогу вапнаю, а калі вапна прасохне, то пасланьць роўна саломы.

Чысты і цёплы хлеў напалову захоўвае зімою корм для статку, які будзе сябе добра чуць, не захварэе і дасьць больш малака.

## Як атрымаць сваё насеньне буракоў.

Кожная гаспадарка можа здабываць насеньне кармавых буракоў праз пасадку высадак на сваіх гародах. Дзеля гэтага ўвосень з ураджаю належыць выбраць патрэбны лік самых сьпелых буракоў, сярэдняй велічыні з гладкім кораньплодам. Бацьвіньне ў іх трэба абрэзваць прыблізна на 5 сант. вышэй галоўкі. Адабраныя буракі на высадкі перахоўваюцца ў пограбе, у сухім жоўтым пяску, паложаныя радамі, галоўкамі ўверх.

Вясною, у красавіку месяцы, высадкі садзяць. Глеба пад імі павінна быць глыбока ўскопана рыдлёўкаю і, наагул, добра апрацавана і ўгноена хлеўным гноем з дадаткам 40-60 кілёграмаў фосфарнай кіслаты (у супэрфасфаце), 20-60 кілёгр. паташу (у калійнай солі), і 20 кілёграмаў азоту на гэктар. На вучастку які бярэцца для пасадкі высадак, праводзяцца ўдоўж і ўпоперак рыскі, на адлегласьці адна ад аднэй на 60-70 сант. і ў мясцох, дзе перасякаюцца рыскі, садзяцца высадкі.

Як пачнуць высадкі расьці, каб папярэдзіць падлом сьціблаў, трэба прывязваць іх да калочкаў, ці хаця-б зьвязваць па некалькі разам.

Цьвісьці высадкі пачынаюць у канцы чэрвеня м-ца, а праз 50-60 дзён высьпявае насеньне. Сьціблы з насеньнем зжынаюць сярпом, хаця яны яшчэ і зеленаватыя, раскладваюць для прасушкі і праз нейкі час снапкі высадак складваюцца ў будыніне, пасьля чаго, звычайна, малоцяць цэпам. Сьціблы высадак могуць ісьці на апал, а самыя буракі — высадкі выкопваюцца і ў належным выглядзе ідуць на корм скаціне.

**Л.**

## Дагляд цельнае каровы.

Каждаму грамадзяніну трэба ведаць, як даглядаць цельную карову. Гэтым даглядам трэба захаваць здароўе каровы і яе будучае цяля. У нашых гаспадарках на вёсцы часта зусім не даглядаюць цельнай каровы, што бязумоўна адбіваецца на даходнасьці гаспадаркі.

Дагляд каровы за 2—3 месяцы перад ацёлам вельмі адказны, як з боку кармленьня, так і з боку яе ўтрыманьня. Ацёл каровы, асабліва першацёлкі, мае вялікі ўплыў на ўвесь удойны пэрыяд, а таксама і на цяля.

Усякая неасьцярога з цельнай каровай вядзе яе да розных хваробаў да выкідашаў і г. д. Маючы ўсё гэта на ўвазе, гаспадару трэба ведаць, як карміць і даглядаць цельную карову.

Калі карове даваць вельмі мала кормаў ці, як кажуць, недакармліваць яе, дык ад гэтага цялё родзіцца малым, карова будзе худзець. Наадварот, калі карову перакармліваць, дык цяля будзе вельмі вялікае і ацёл будзе цяжкі. Норма для кароў сярэдняга складу (пры жывой вазе прыблізна да 20 пуд.) 3½ кармавых адзінак.

Калі цельняя карова вельмі худая, дык ёй за 2—3 месяцы да ацёлу даюць падбаўку каля ½ кілё зярнят, каб яе паправіць.

Цельнай карове трэба даваць у корм добрае сена, салому і ½ кіл. зярнят. Патрэбна, каб корм ня быў вельмі аб'емны. У корм цельнай карове трэба даваць патрэбную колькасьць спажыўнага корму і соляў (яны патрэбны на косьці цяляці). Гэтыя солі будуць брацца з касьцей самай каровы, калі іх будзе мала ў корме. Недахват соляў у корме каровы можна выклікаць хваробу, якая вядзе да палому ямкасьцей. Цельнай карове трэба даваць у дзень сталовую лыжку апаленых і памолатых касьцей, а калі гэтага няма, дык хоць лыжку крэйды.

Можна і нават карысна даваць цельнай карове бульбу і караньплоды (буракі, рэпа) да 5—8 кіл. на штуку ў дзень. Караньплоды лічацца паслабляючым кормам.

Цельнай карове забараняецца даваць корм заплесьнеўшы, пакрыты іржой, гнілы, прагорклы ці пачаўшы брадзіць. Забараняецца даваць таксама корм з жытнімі рожкамі, каб ня было выкідышу. Корм які можа пучыцца (зялёная канюшына) ці папірае (салома бабовых) цельнай карове лепш не даваць. Вельмі вадзяністыя адкіды, як брага, цельнай карове таксама не даюць. Не патрэбна даваць каровам і халоднай прамёрзлай бульбы ці іншых караньплодаў, а таксама вельмі гарачага корму

Усіх гэтых прадасьцярог пры кармленьні цельнай каровы, асабліва трэба трымацца ў вапошнія 2—4 месяцы да ацёлу.

За цельнай каровай павінен быць добры догляд. Такіх кароў ня трэба стамляць доўгімі пераходамі, не даваць ім скакаць праз равы, платы, ня біць іх. Неабходна глядзець, каб у хлявох для цельных кароў былі даволі шырокія вароты, прасторныя стойлы. Гной у хляве трэба кожны раз раўняць. Подсьціл у хляве кладзецца даволі цёплы і сухі. Цельная карова абараняецца ад сквазьнякоў. На вадапоях, калі каровы выганяюцца на двор, лёд пасякаецца, каб было ня скоўзка. Няправільна растучыя капыты трэба абразаць, каб каровы не каўзаліся. За два тыдні да ацёлу карову зусім ня трэба выганяць з хлева.

Усе гэтыя прадасьцярогі захоўваюць карову ад выкідышаў, вывіхаў, палому касьцей і інш. Апрача корму і дрэннага догляду, выкідышы могуць быць і заразьлівыя. Такія выкідышы паўтараюцца часта. Пры заразьлівых выкідышах за парадай трэба зьвярнуцца да вэтэрынара.

У некаторых кароў перад ацёлам часта набухае ад малака вымя. Такіх кароў неабходна выдойваць да цяленьня, але ня чыста, каб яе не раздаіць да цяленьня, што можа выклікаць радзільную гарачку. У першацёлак часта разьмінаюць дойнікі, каб яны лепш даваліся даіцца і сасаць цялятам.

Перад самым ацёлам не патрэбна карову перакармліваць сытнымі кормамі. Ад такога перакорму ў кароў бывае радзільная гарачка і яны падыхаюць. Гэта асабліва часта здараецца з малочнымі каровамі. Каб такога зьявішча ня было, раіцца за 10-15 дзён да ацёлу каровам зьменшыць дачу спажыўнага корму і за 2-4 дні менш паіць. Ацяліўшуюся карову можна паіць толькі праз 12 гадзін, даючы ёй ваду па крысе, але часьцей; толькі цераз 2-3 дні ваду можна даваць уволю. Даіць ацяліўшуюся карову можна не раней, як цераз 4-5 гадзін. Гэту карову трэба асабліва сьцерагчы ад холаду і сквазьняку, а так сама даць ёй сухі подсьціл. Карысна даць ёй цераз 2-3 гадзіны пасьля ацёлу цеплаватага пойла.

Пасьля пойла можна даваць карове добрае сена. Да поўнай нормы карову можна даваць толькі праз 10-12 дзён.

**С. Ж.**

## Аб памылках у карыстаньні мінэральнымі парашкамі.

Шмат хто з сялян ужо ўжывае мінэральныя парашкі, ці як іх яшчэ завуць штучныя ўгнаеньні. За апошнія гады мінэральнае ўгнаеньне пачынае ў значным ліку пашырацца на Беларусі.

Але, пры няўмелым карыстаньні імі, парашкі часта не апраўдваюць паложанай на іх гаспадаром надзеі і ў гэтым выпадку наражаюць нашага гаспадара на страты. Гэтыя выпадкі расчароўваюць і перадавых нашых гаспадароў у карысьці ўжываньня штучнага ўгнаеньня і часта ад іх прыходзіцца чуць нараканьні, што мінэральныя ўгнаеньні для іх глебы не падыходзяць, што іх зямля гэтых парашкоў не патрабуе.

Вось, гэта часта служыць прычынай занядбаньня нашых гаспадароў да мінэральнага ўгнаеньня, што бязумоўна, выклікае паніжэньне даходнасьці нашых сельскіх гаспадарак.

Каб гэтыя абмылковыя пагляды на штучнае ўгнаеньне ўсунуць, трэба перш нашым сялянам пазнаёміцца з прыродай штучных угнаеньняў і з запатрабаваньнямі нашых культурных расьлінак.

Гэтае элемэнтарнае (пачатковае) знаёмства з тым, з чым найчасьцей прыходзіцца сутыкацца нашаму селяніну, часта можа абясьпечыць яго ад лішніх выдаткаў і працу яго зрабіць больш прадукцыйнай.

Парашкі бываюць розныя і дзеляцца на тры групы: азоцістыя, фосфаравыя і калійныя. Расьліны таксама ня ў роўнай меры патра-

буюць азот, фосфар і калі (паташ). Адны цягнуць з зямлі больш азоту, як напр., жыта і ўсе каласавыя збожжы, другія — больш паташу (караньплоды, бульба, лён), трэція — фосфар (зернавыя расьлінкі).

Вось цяпер і могуць быць розныя выпадкі, у якіх трэба разьбірацца. Напрыклад, сеецца бульба ці лён; тут ужо можна дадаваць паташу, які трэба спадзявацца, што ён добра аплаціцца.

Другі прыклад: зямля далёка ад сялібы, сеецца жыта і авёс. Тут глеба высільваецца на азот і фосфар, значыць, іх трэба ўносіць у глебу. Калі-ж зямля зусім бедная, спустошаная і палажыць там адно якое-небудзь угнаеньне, дык, вядома, вынікі будуць дрэнныя. А гэта ў нас цяпер вельмі часта бывае. Купіць селянін пуд якога-небудзь аднаго ўгнаеньня, пасее яго на самай пустой зямлі, а пасьля пры няўдачы і вініць парашкі, што яны не далі ніякай карысьці.

Яшчэ прыклад: ня раз былі выпадкі, што бульбу на гнаю псуе так званы драцяны чарвяк. А гэта таксама ад таго, што даём залішне сьвежага гною. Калі-б гаспадар зьменшыў на 1/3 частку гною, а дабавіў бы паташовай солі, дык гэтага ня было-б, ды ўраджай клубняў ад гэтага павялічаўся-б.

Мінэральнае ўгнаеньне патрабуе ад гаспадара ведаў, як імі карыстацца і пад якое збожжа і колькі яго даваць.

Трэба ведаць, якая глеба — супесь, суглінак, падзол і што сеялася некалькі гадоў на гэтай зямлі і тады выбіраць патрэбнае ўгнаеньне. Калі-ж гаспадар ня можа гэтага вырашыць, дык з гэтым трэба зьвярнуцца да спэцыялістага.

На памылках трэба вучыцца і калі адзін раз гаспадар неправільна скарыстаў парашкі, дык трэба ўжываньне парашкоў не пакідаць, а спрабаваць далей. Каб не наражаць сябе на вялікія страты, рэкамэндуем ставіць дасьледчыя працы ў невялікім маштабе на невялікім кавалку. Да гэтага мы вернемся ў другі раз.

З.

# Юрыдычныя парады.

**Запытаньне:** Пасьля сьмерці бацькі засталося 12 дз. падзелянай і 17 дз. купленай (праз Банк) зямлі. Бацька памёр у 1922 годзе. З насьледнікаў застаўся: матка-удава, я з братам і дзьве сястры, абедзьве замужам у другіх вёсках, а адна дык нават у другой гміне. Зямлю мы падзялілі з братам, бо сёстры, выходзячы замуж, атрымалі добры пасаг. Матка жыве пры мне, як старэйшым. Пры мне і ейная часьць — дзьве зпалавінай дзесяціны, якія яна сама сабе аблюбавала і выдзеліла. Цяпер сёстры згаварыліся і патрабуюць ад нас роўных часьцей кажучы, што па новаму закону ім належацца такія-ж часьці, як і нам братом. Грозяць судом, а мо' ужо і падалі. звычаю, каб дочкі, якія выйшлі замуж у іншыя вёскі маглі атрымаць яшчэ і зямлю, як насьледзтва, у нас няма. Наадварот — у такіх выпадках дочкі нічога не атрымалі. Але цяпер кажуць—новы закон. Ці могуць яны атрымаць што-колечы і што і як рабіць нам, каб абараніцца.

**Адказ:** Новы закон, па якому дачка атрымлівае роўную часьць насьледзтва з сынам — тасуецца толькі да выпадку, калі насьледзтва адкрылася (памёр насьледадаўца) пасьля ліпня 1924 году. Да гэтага часу абавязуе стары закон, па якому сястра атрымлівае адну сёмую часьць. Аднак, гэтае права дачкі датычыць толькі купленай памешчыцкай, а не сялянскай падзельнай зямлі. Адносна надзельнай—правы дачкі абмяжоўваюцца звычаем у даннай мясцовасьці. Гэткім чынам Вашыя сёстры на надзельную зямлю ніякага права ня маюць згодна з істнуючым у Вас звычаем. Але на купленую зямлю правы маюць, і вось якія: з 17 дзесяц. перш наперш бярэцца і адлічваецца адна сёмая часьць, як „указная ўдоўя доля“ маткі, а з астатку сёстры маюць права атрымаць па аднэй сёмай часьці Больш нічога сёстры атрымаць ня могуць.

# Усячына.

## Колькі работнікаў працуе у Польшчы.

Апошні нумар „Wiadomości Statystycznych“ падае лік работнікаў, працуючых у горніцтве, гутніцтве, прамысловасьці і публічных работах.

У чэрвені 1928 г. працавала ў Польшчы 888, 516 работнікаў, з якіх 571, 717 у прамысловасьці вытворчай, 143, 016 у горніцтве, 63, 694 —у гутах, 63, 232 —у вытворнях амуніцыі і на жал. дарогах, 40, 067 — на публічных работах і 6, 760 на электроўнях і вадакачках.

У гэты самы час у мінуўшым годзе працавала 804, 288 работнікаў, г. ё. на 717 менш.

З 571, 717 работнікаў, працуючых у вытворчай прамысловасьці, найбольш працуе ў галіне валакністае прамысловасьці — 166, 790. Затым па чарзе ідзе — мэталёвая прамысловасьць 194, 152 раб. Спажыўчая, мінэральная і мясная прамысловасьць затрудняюць — 50,000, будаўляная—34,000, убраньняў—13 000, паперы—12,500, графічная—10,800, скураў — 5,700 і г. д.

## Насяленьне зямной кулі.

Ліга Народаў выпусьціла кніжку, у якой зьмешчана падрабязная статыстыка насяленьня усёй зямной кулі. Паводле даных з гэтай статыстыкі на ўсім сьвеце жыве 1,950 мільёнаў чалавек. З гэтае лічбы на Эўропу прыходзіцца 517 міл., Азію—1,026м., Амэрыку—232 м., Афрыку—146 м. і Аўстралію з вастравамі—9міл.

Цікавы ўзрост насяленьня. Перад вайною ў 1913 г. было 1,803 міл., а ў 1926 г. гэта лічба ўзрасла да 1,932 м. Прырост дасягнуў каля 7%.

## Дзікі чалавек.

Як піша „Бел. Крыніца“ падчас нядаўна адбываючых вайсковых цьвічэньняў у Баранавіцкім павеце, жаўнеры знайшлі паміж вёскамі Беразоўка і Тартакамі дзікага чалавека, які быў без адзежы і парошшы чорнымі валасамі. Лясны чалавек меў па пояс рудую бараду і доўгія пазуры на руках і нагах. Валасы на галаве такія доўгія, што закрывалі сусім твар і вочы. Калі да яго падыйшлі, ён спаў, а калі абудзіўся і ўбачыў людзей,—завыў дзікім голасам і ўцёк. Адносныя ўлады ма быць выдалі загад злавіць гэтага чалавека.

# Песьня салауя.

Вячэрняй парою,
Ў час летніх начэй,
Пад самай зарою
Пяе салавей.
Плывуць яго тоны
Ў гару аж да зор,
Іх ловіць зялёны
Вялікі простор.
А сьпеў галасісты
Нясецца як звон,
Ў прасторы лясістым
Разбуджвае сон.
З гушчару гукнецца
Ды вылеціць вон,
Стралою памкнецца
Да сьвету старон:
Праз горы і поля,
Балоты, лугі,
Лунае паволі
Бяз гора й тугі.
Пачуўшы здумёны
Ты доўга стаіш,
У прастор невядомы
Ты думкай ляціш.
Здаецца, забыўся-б,
Забыўся на ўсё
Ды з песьняй расплыўся,
Пайшоў ў забыцьцё.
Як песьня прарвецца,
То суму пажар
Ў душы адгукнецца,
Як болю удар.
Стаіш, пазіраеш
У шэрую даль,
І сам ты ня знаеш,
Чаму цісьне жаль?

У. Б.

## Пісьмо у рэдакцыю

*Паважаны гр. Рэдактар!*

У Вашай паважанай часопісі „Грамадзяніне" № 17 з дня 28.IX.28 г. была надрукавана карэспандэнцыя п. н. „Спэктакль", нейкага „Крэўскага Беларуса", у якой пішацца пра спэктакль у м. Крэве, ладжаны 29-VII с. г. Драматычнай Сэкцыяй Акружнай Рады „Прасьвета" Аддзелу ім. Я. Купалы у Румянцаве, Беніцкай гм.

У карэспандэнцыі гаворыцца:...„на запросіны братоў Саковічаў з ф. Баўдыроў, Крэўскай вол. прыехаўшыя артысты Драм. Сэкцыі Т-ва „Прасьветы" у Румянцаве, Маладэчанскага пав. наладзілі спэктакль."

Ніякіх запросінаў наша Драм. Сэкцыя ад братоў Саковічаў, а ласьне Юльяна Саковіча не атрымала і Саковіч (ы) ніякага ўдзелу ня прыймаў у нашым спэктаклю, хоць і быў прысутны.

За ўсе пажаданьні для нас „Крэўскім Беларусам", а таксама для тых Грамадзянаў, якія памагалі пры ладжаньні спэктаклю у Крэве, ад усей Драм. Сэкцыі шчыра дзякую. Пры першай магчымасьці пастараемся яшчэ наведаць Крэва і адыграць больш рэальныя творы з беларускае сцэны.

Дн. 16.IX.1928 г.

З пашанай: Павал Асіповіч.

## Паштовая скрынка.

Асіповічу., пав. Маладэчанскага. Дадзены лістом Чапінскаму — Пастараемся выслаць.

Яну Круку — Палачанскай гміны. Матэр'ялы атрыманы, пойдуць.

Мік. Калесьніку — Падпіску і грошы атрымалі. Газэту высылаем.

## Куток жартау і сьмеху

### Спосаб атрымаць грошы ад мужа.

— Навучы, якім спосабам ты дастаеш столькі грошаў ад мужа?

— А вось якім: пагражаю яму, што вярнуся да маткі і ён кожны раз дае грошы на дарогу.

### Праўдзівая любоў.

Муж і жонка стаяць на крутым беразе глыбокай, быстрай ракі, любуюцца магутнасьцю стыхіі. Раптам жонка пытаецца:

— Скажы мне, што-б ты рабіў, калі-б я раптам кінулася ў гэную раку?

— У той час пабег-бы да бліжэйшай вёскі за помачу.

— Але-ж гэтая вёска далёка, каля 2 кілямэтраў!

— Гэта нічога! Для цябе, дарагая, гатоў прабегчы два разы далей!

### На свой капыл мерае.

— Жыд Моўша стаіць са сваім сынком Іцкаю перад памятнікам Наполеона I.

— Тата, а хто гэта ёсьць?

— Гэта Наполеон, вялікі купец, які гандляваў дзяржавамі.

— А што значыць лічба 1813.

— Гэта, сынок, быў нумар яго тэлефону.

---

Згубленае рэгістрацыйна — вайсковае пасьведчаньне, выданае Красна—Сельскай гмінай на імя грамадзяніна вёскі Уша Кірылы Руткевіча, лічыць няважным Нашоўшага прашу зьвярнуць па адрэсу: в. Уша, пошта Аляхновічы К. Руткевіч.



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.